

НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА ШУМІЛІНШЧЫНЫ

# СЬВІТАНАК

*Беларусь, твой народ дачакаецца Залацістага, яснага дня!*
*М. Багдановіч.*

№ 8 (137), ЧЭРВЕНЬ 2012 ГОДА

ПОГЛЯД РЭДАКТАРА

## НЯМА ДЭМАКРАТЫІ – НЕ БУДЗЕ І ВЫБАРАЎ

**18 чэрвеня 2012 года Аляксандр Лукашэнка аб'явіў дату чарговых парламенцкіх выбараў у Беларусі. Гэта навіна была агучана ў фармаце "лепшай" савецкай традыцыі. Паводле кіраўніка краіны, дзень выбараў улады павінны зрабіць "святам для беларускага народа". Аднак наколькі такое свята будзе дэмакратычным і свабодным ва ўмовах жорсткага аўтарытарнага рэжыму аднаго чалавека?**

У сувязі з прынятымі рашэннямі выбары ў Палату прадстаўнікоў павінны адбыцца 23 верасня 2012 года. Прычым старшыня Цэнтральнай камісіі па выбарам Лідзія Ярмошына паведаміла, што гэта парламенцкая кампанія нібыта ўпершыню будзе праходзіць па зменненаму заканадаўству. Больш таго, яна будзе спрошчана для яе ўдзельнікаў, найперш для палітычных партый, якім стане намнога лягчэй вылучаць кандыдатаў у Палату прадстаўнікоў. Раней патрэбна было мець у выбарчый акрузе зарэгістраваную пярвічную суполку сяброў партыі ў рэгіёне. Цяпер любая партыя мае права вылучаць сваіх кандыдатаў ва ўсе 110 выбарчых акругі.

Так, сапраўды, палітычным партыям далі нейкую палёгку амаль за два дзесяцігоддзі супрацьстаяння з бюракратычным рэжымам. Аднак па сутнасці, гэта толькі касметычныя папраўкі ўсё таго ж савецкага заканадаўства, якое ніколі не было дэмакратычным. Да прыкладу, кандыдатам дазволілі самім ствараць уласныя выбарчыя фонды. Але памеры фондаў абмежаваныя – хіба можна арганізаваць нармальную палітычную кампанію на нейкія 100 мільёнаў беларускіх рублёў пры сучасных цэнах? Пры ўсім тым, што выбарчая сістэма ў цэлым засталася мажарытарнай, каб вялікім начальнікам – прадстаўнікам прэзідэнцкай вертыкалі лягчэй было выкарыстоўваць адміністратыўны рэсурс. Заўважана, што адміністрацыя працоўных калектываў поўнасцю бярэ пад кантроль дзеянні выбаршчыкаў падчас кампаніі, асабліва на дзяржаўных прадпрыемствах і арганізацыях. Дырэктары ды штатныя ідэолагі дзяржарганізацый прызначаюць у выбарчыя камісіі сваіх людзей, настойліва рэкамендуюць выбаршчыкам падтрымліваць патрэбных уладзе прызначэнцаў. Аб якім тут свабодным волевыяўленні грамадзян можна казаць усур'ёз, ды яшчэ пры існуючай кантрактнай сістэме працы? Іншая сітуацыя, больш дэмакратычная, магчыма ў рамках змешанай сістэмы, калі дэпутацкія мандаты падзелены на мажарытарныя і партыйныя. У гэтым выпадку з'яўляецца магчымасць канкурэнцыі новых ідэй і праграм у грамадстве, а не тупое замбіраванне ўсеўладнымі "бацькавымі" начальнікамі работнікаў зарплатай у 500 долараў ці абяцанкамі хуткага вырашэння мясцовых бытавых праблем. Як бы там ні было, але сусветны вопыт цівілізаваных краін паказвае, што дэмакратычны парламент мнагапартыйны, паспяхова займаецца заканатворчасцю толькі пры прапарцыянальнай сістэме, у рамках якой галасаванне адбываецца за партыйныя спісы. Тым больш, што парламент – гэта заканадаўчы орган, які вырашае лёс краіны. А пры дзейнічанні мажарытарнай сістэмы па акругах мясцовым выканаўчым органам улады выгадна прызначаць зверху толькі аднаго чыноўніка, які будзе "выбіваць" з бюджэту грошы налогаплацельшчыкаў на праблемы рэгіянальнага ўзроўню. Замест творчай заканадаўчай дзейнасці для ўсяго народа ён будзе займацца местачковым папулізмам, зарабляць танныя аўтарытэт у калгаснікаў ды пенсіянераў.

З аналізу сітуацыі вынікае, што афіцыйны рэжым насамрэч змяняць нічога не збіраецца. Прычыны вядомыя. Пераважная большасць чыноўнікаў даўно прырасла да ўтульных крэслаў так моцна, што страх за страту пасады і кабінета прывёў да злоўжывання ўладнымі паўнамоцтвамі, прывычным для іх метадам імітацыі выбарчага працэсу. Прафанацыя, фальсіфікацыя, прымус, наогул імітацыя выбараў стала для іх нормай. Без сумневу, наменклатура Аляксандра Лукашэнкі будзе супраціўляцца да апошняга любым дэмакратычным праявам. Хіба гэта не іх заслугі ў тым, што ў Беларусі поўнасцю ліквідавана публічная палітыка? Разам з тым яны цінічна даводзяць грамадству, што партыі самі вінаватыя ў сваім гаротным становішчы – слабасці і адсутнасці ўплыву ў народзе. Але ці могуць палітычныя партыі ўвогуле існаваць, калі ў краіне няма сістэмных дэмакратычных інстытутаў? На агульнанацыянальныя каналы тэлебачання нікога з дэмакратычных лідэраў не пускаюць, яны належаць толькі аднаму нязменнаму валадару.

Адпаведна ўзнікае лагічнае пытанне: а навошта Аляксандру Лукашэнку спатрэбіўся гэты выбарчы фарс з яго кішэнным парламентам? Як дэмакратычны электарат, так і самыя фанатычныя прыхільнікі Лукашэнкі даўно не ўспрымаюць гэту фармальную структуру, ад якой нічога не залежыць. Навошта яму гуляць у дэмакратыю, калі намнога прасцей было б узяць на сябе паўнамоцтвы і адным дэкрэтам прызначыць спіс усіх сваіх сенатараў ды дэпутатаў без выбараў? Мэты прагматычныя – грошы для ўмацавання асабістай улады. А для гэтага патрэбна: папершае, афіцыйны Мінск не атрымае заходнія крэдыты без парламента, прызнанага міжнароднай супольнасцю. Падругое, некаторыя брусельскія чыноўнікі, якія супрацоўнічалі з рэжымам, хочуць захаваць станоўчы імідж. Па-трэцяе, крамлёўскія кіраўнікі, якія падтрымліваюць марыянетачны рэжым на Беларусі энергарэсурсамі і грашовымі ін'екцыямі, таксама хочуць легалізаваць уладу сваіх васалаў. Толькі нягледзячы на ўсе высілкі афіцыйнага Мінска і яго хаўруснікаў з Масквы воз і цяпер там. Хто захоча прызнаваць псеўдавыбары, дзе ўсе акругі ўжо загадзя распісаныя вертыкальшчыкамі?

**Аляксандр Шчамлёў.**

НАША ГІСТОРЫЯ

## Апошні прытулак невядомых салдат

**22 чэрвеня на брацкіх магілках вёскі Тропіна адбылася ўрачыстая цырымонія пахавання двух невядомых салдат. Сёлета былі знойдзены астанкі чырвонаармейцаў у вёсцы Сянькова на тэрыторыі Сіроцінскага сельсавета.**

На жалобнае мерапрыемства з нагоды перапахавання астанкаў загінуўшых ваеннаслужачых прыбылі дэлегацыі з шумілінскіх арганізацый і жыхары навакольных вёсак. Труны з астанкамі невядомых салдат у суправаджэнні ваеннага эскорту былі дастаўлены на мемарыял у вёсцы Тропіна, дзе ўжо пахаваныя больш за 1600 чалавек. Імёны мужных абаронцаў, якія, змагаючыся з ворагам, знайшлі спакой на шумілінскай зямлі, засталіся невядомымі. Але невядомыя – не значыць забытыя.

Жалобная працэсія з некалькі дзесяткаў дарослых і дзяцей затым перайшла ў мітынг, які адкрыў намеснік старшыні райвыканкама Анатоль Зайцаў. – Ваенныя падзеі – гэта наша гісторыя, якую нельга забываць. Але, каб памятаць, яе трэба ведаць – пад такім дэвізам пачаў сваё выступленне Анатоль Мікалаевіч. У прыватнасці, ён напомніў прысутным, што на тэрыторыі нашага раёна больш двух тысяч савецкіх салдат дагэтуль застаюцца невядомымі.

І хоць імёны многіх воінаў застаюцца невядомымі, як і імёны двух гэтых салдат, трэба працягваць работы па пошуку і увекавечванню памяці ўсіх тых воінаў, якія ляжаць у шумілінскай зямлі. Аб гэтым нагадаў раённы ваенны камісар Алег Чарняўскі. За апошнія тры гады, аднак, удалося знайсці парэшткі 16 салдат – 8 імёнаў былі ўстаноўлены.

У гонар воінаў святарамі быў праведзены абрад за супакаенне убіенных, ускладзены кветкі і вянкі. Памяць воінаў ўшанавана па-хрысціянску. Вось толькі на магільнай пліце замест іх прозвішчаў выведзены надпіс:"Вечная памяць воінам, паўшым у баях за Радзіму.

**С. Горкі.**

## "СВІТАНАК" У ІНТЭРНЭЦЕ

**Наша газета стала размяшчаецца на партале *http://kamunikat.org/*, дзе зацікаўленыя грамадзяне могуць яе спампаваць са старонкі: *http://kamunikat.org/svitanak.html*, што у каталагу "Пэрыёдыка" для далейшага выкарыстання яшчэ да з'яўлення газеты на паперы.**

У ЦЭНТРЫ УВАГІ

## Усіх на касьбу

**Для шумілінскіх аграрыяў распачалася новая сельскагаспадарчая кампанія. Сёлета да яе прыступілі як ніколі масава: райвыканкам паставіў задачу кожнаму прадпрыемству і арганізацыі. Пры гэтым былі даведзеныя нормы на аднаго работніка.**

Падобныя кампаніі ў нашым раёне сталі "традыцыяй" яшчэ з савецкіх часоў. У мінулыя гады нават самі супрацоўнікі райвыканкама ўласнаручна працавалі на калгасных палетках. Найбольш часта іх выкарыстоўвалі на ўборцы льну і буракоў. У сельскай гаспадарцы ўсё ўзаемазвязана, тут няма другарадных работ, больш ці менш значных. Адна важная кампанія змяняе другую, і так цэлы год. Вось і цяпер, здаецца, толькі што скончылася пасяўная, а ўжо ў раёне пачалася касавіца. А нарыхтоўка кармоў, па вялікім рахунку, доўжыцца літаральна ўсё лета.

Як вядома, кормаўборачнай тэхнікі розных мадыфікацый у сельгасарганізацыях дастаткова, тэхнічныя магчымасці дазваляюць правесці работы ў аптымальныя тэрміны. Гаспадаркі забяспечаны паруча-змазачнымі матэрыяламі. Аднак чаму ж тады арганізацыям і прадпрыемствам даведзена заданне здаць у залік аграрнікаў раёна яшчэ 288 тон травы?

Зараз галоўнае – тэмпы на касьбе. Але на сённяшні дзень рэаліі такія, што ў працэсе работы ўзнікаюць цяжкасці. Сёлета гэта ў першую чаргу – надвор'е, якое ў любую пару года ўносіць свае карэктывы ў запланаваную работу аграрыяў. Сёння з-за прайшоўшых дажджоў не на ўсе палі можна заехаць, а ў многія ямы яшчэ нельга закладваць зялёную масу, бо зацякае вада. Па ўсяму відаць, што ў некаторых гаспадарках работы замарудзіліся.

Пакуль не зусім зразумела, чым абгрунтавана рашэнне шумілінскай улады аб "мабілізацыі" работнікаў тых калектываў, якія не маюць ніякога дачынення да палявых работ. Між іншым, у нашай краіне, як тым у войску – загады вертыкальшчыкаў не абмяркоўваюцца, а выконваюцца. Таму дзяржаўныя служачыя ў арганізацыях неадкладна ўзяліся за справу. Так, надоечы першымі пачалі службоўцы "Белаграпрамбанку", раённай пошты, райпаліўзбыту, Цэнтра сацыяльнага абслугоўвання. Пасля былі задзейнічаны работнікі энергазбыту, упраўлення па працы і занятасці, аддзела па надзвычайных сітуацыях. Работнікі арганізацый самі шукаюць няўдобіцы, або абкошваюць замацаваныя ўчасткі каля прадпрыемстваў: абочыны дарог, канавы, пустуючыя агароды, поймы рэк.

А сітуацыя і сапраўды надзвычайная, калі адміністрацыя раёна масава арганізоўвае людзей для выканання "няпрофільнай" работы. Па-ранейшаму ніяк не могуць адмовіцца нашы начальнікі ад штурмаўшчыны і аўралаў. Але як паказала практыка мінулых гадоў, падобныя метады тут немэтазгодныя. Наўрад ці дапамогуць настаўнікі або сацыяльныя работнікі с косамі пабагацець раёну на кармы для жывёлы. 200 кілаграмаў зялёнкі, якія павінен накасіць кожны работнік, да больш інтэнсіўнага развіцця жывёлагадоўлі з высокімі вытворчымі паказчыкамі не прыводзілі і раней. Стратэгія кормавытворчасці неаднаразова падцвярджае, што поспех там, дзе захоўваецца строгая тэхналогія, прымаецца перадавы вопыт і ёсць належная арганізацыя працы, дзе робіць усё своечасова і якасна. Гэта прапісная ісціна.

Кіраўнікі раёна або ствараюць выгляд, што працуюць па-новаму, клапоцяцца пра ўраджай, або не разумеюць, што косы павінны стаяць у музеях. Мабыць, трэба было больш адказна ставіцца да кадравай палітыкі, каб сельгаспрадпрыемствах не адчуваўся вострый дэфіцыт спецыялістаў і рабочых. Тады можна будзе абысціся сваімі сіламі, без дапамогі "шэфаў".

**Я. Вайтовіч.**

## АБ'ЯВА

- ***Каб атрымліваць кожны нумар газеты «Світанак» паведаміце рэдакцыі аб гэтым – зрабіце бясплатную падпіску. Калі не жадаеце атрымліваць газету, то патэлефануйце.***
- ***Рэдакцыя «Світанка» змяшчае бясплатныя абвесткі чытачоў выдання. Дзеля размяшчэння абвесткі патэлефануйце ў рэдакцыю.***
- ***Калі парушаны вашы правы спажыўца, працаўніка, то даем эфектыўныя парады па абароне права і пошуку бясплатных юрыстаў. Звяртайцеся на адрас газеты «Світанка».***
- ***Рэдакцыя запрашае да супрацоўніцтва неабыякавых грамадзян. Вашы навіны, паведамленні – нашая падзяка. Словам, сувенірам***

З ПАСЯДЖЭННЯ ПРЭЗІДЫУМА РАЙСАВЕТА

# Якія планы, такія і вынікі

**Шэраг актуальных пытанняў быў разгледжаны на нядаўнім пасяджэнні прэзідыума раённага Савета дэпутатаў. Па вынесеных на парадак дня пытаннях члены прэзідыума заслухалі справаздачы адказных асоб і кіраўнікоў сельскіх Саветаў па добраўпарадкаванню населеных пунктаў і навядзенню парадку на зямлі.**

У поле зроку старшыні райсавета Ірыны Новікавай трапіла дзейнасць кіраўніцтва Дабейскага сельвыканкама. Размова вялася аб нездавальняючай рабоце па зносу струхлелых пабудоў на тэрыторыі сельсавета і добраўпарадкаванні пляцовак вакол дамоў. У ходзе абмеркавання высветлілася, што не выкананы планавыя заданні па пераводу прысядзібных участкаў для пасеву зерневых у севаабарот сельгаспрадпрыемстваў. Непрывабны выгляд маюць дзіцячыя пляцоўкі (не завезены пясок), каля пакінутых дамоў ляжыць паламаная агароджа, мала пасаджана дрэў, кветак, зацвілыя студні патрабуюць рамонту і інш.

На крытычныя заўвагі давала тлумачэнні старшыня Дабейскага сельскага Савета Ірына Шалахава. Яна паведаміла аб выніках работы па навядзенню парадку ў населеных пунктах. Наспела ідэя: паспрабаваць высадзіць гэтак званую жывую агароджу. Калі эксперымент атрымаецца ў цэнтральнай вёсцы Дабея, то магчыма ён знойдзе працяг і ў іншых населеных пунктах. Акрамя гэтага, удалося знайсці спонсараў у Віцебску, які забяспечылі сельсавет фарбай. Зараз першачарговая задача – прыцягнуць мясцовае насельніцтва да грамадскіх работ. Час такі, што пара перададлець утрыманскія настроі ў жыхароў, якія павінны самі імкнуцца да таго, каб іх жытло знаходзілася ў належным стане. Тым больш, што ўжо выяўлена каля 60 сядзіб на сельсавет, гаспадарам якіх былі ўручаны прадпісанні за парушэнні правіл добраўпарадкавання на падворках. Але па ўсяму відаць, што і пісьмовыя папярэджанні, і ўгаворы не дапамагаюць своечасова скасіць пустазелле, пафарбаваць хату, абрэзаць здзічэлы сад. З гэтай нагоды кіраўнік райсавета Ірына Новікава заклікала прадстаўнікоў мясцовых органаў улады прымяніць да нядбайных гаспадароў больш строгія адміністратыўныя меры.

Галоўны клопат мясцовай улады – стварэнне спрыяльных умоў для жыццядзейнасці насельніцтва. Бадай што, актуальная праблема, ад якой залежыць камфорт грамадзян – рэгулярны вываз бытавых адходаў. Пакуль няма такой вёскі, дзе людзі не скардзіліся на перабоі пры вывазе смецця на палігон. Апошнія выпадкі здараліся ў Ляжнях і Амбросавічах. Начальнік участка Т. Сянькова апраўдвалася тым, што не хапае тэхнікі і вадзіцеляў. А гэта ўжо пралікі кадравай палітыкі не толькі мясцовых гаспадарак, але і раённага кіраўніцтва.

**Уладзімір Амбросаў.**

ЖЫВІ ЯК ГАСПАДАР

# СХОДЫ Ў ОБАЛІ

**У мястэчку Обаль адбыліся сходы грамадзян, у якіх прымалі ўдзел жыхары горпасёлка, чыноўнікі з Шумілінскага райвыканкама , службоўцы сельвыканкама і спецыялісты раённых службаў.**

Работа органаў мясцовай улады, і асабліва яе кіраўнікоў, павінна быць накіравана на тое, каб палепшыць жыццё людзей, якія тут пражываюць. З гэтай мэтай праводзяцца сустрэчы з насельніцтва, падворныя абходы, рэйды супрацоўнікаў рай- і сельвыканкамаў. На гэты раз члены рэйдавай інфармацыйна-прапагандысцкай групы пасля падворнага абходу наладзілі сходы, на якія былі запрошаны мясцовыя жыхары. Усяго прайшло сем сустрэч з грамадзянамі ў вызначаных месцах.

Найбольшую ініцыятыву праявілі жанчыны з вуліцы Першамайскай. Гаспадынь можна зразумець – іх пакінулі без гарачай вады. Перадусім яшчэ крыху давалі па выхадным дням, а зараз гарачая вада ўвогуле не паступае. А яшчэ ў падвалах развялося мноства бадзяжных катоў.

Выявіліся праблемы і на аддаленых вуліцах. Так, да прыкладу, на Зарэчнай і Казлова жыхары, асабліва пенсіянеры скардзіліся на разбітую дарогу. Як высветлілася, дарога вядзе да могілак, некалі там былу пракладзены асфальт – па ёй вывозілі гліну з кар'ераў. На іншых вуліцах дарогі таксама не даведзены да ладу – у Обальсім аддзяленні жыллёва-камунальнай гаспадаркі няма ніводнага грэйдэра. На гэта старшыня Обальскага сельсавета М. Будневіч заверыў вяскоўцаў, што ў бягучым годзе на дарогах і вуліцах навядуць парадак . Апроч гэтага, наладзяць больш якасны прём кабельнага тэлебачання, якое не задавальняе абальчан.

Як заўжды, большасць пытанняў тычылася жыллёва-камунальнага характару. І прадстаўнікі мясцовай улады, і жыхары нашых вёсак і мястэчак лічаць іх самымі набалелымі. Менавіта таму на сённяшні дзень галоўнае ў рабоце мясцовых Саветаў –імкненне дапамагчы чалавеку.

Аднак нягледзячы на тое, што Саветы зараз маюць большыя магчымасці для нармальнага забяспячэння жыццядзейнасці насельніцтва, колькасць зваротаў у райвыканкам не змяншаецца. Бо апошняе рашэнне застаецца за галоўным вертыкальшчыкам раёна. Як паказала практыка, вяскоўцы асабліва не спадзяюцца ні на сельскія Саветы, ні на абяцанкі членаў рэйдавых дэлегацый з райцэнтра. Асцерагаюцца людзі не дарэмна, таму што, кіраўнікам інфармацыйна-прапагантысцкіх груп нічога не застаецца, як прызнаваць чыесці памылкі і абяцаць хуткае выкананне мноства праблем.

Напрыклад, у Амбросавічах людзі скардзяцца на водаправодную ваду: яна ржавая, яе непрыемна піць. Дарэчы, падвышанае ўтрыманне ў вадзе жалеза здольна не толькі пашкодзіць здароўю чалавека, але і вывесці з ладу дарагую сучасную бытавую тэхніку. Да таго ж такая праблема назіраецца і па ўсім раёне. Пакрыху яна вырашаецца, аднак пабудаваць станцыі абезжалезвання ў кожным населеным пункце не маецца ні сродкаў, ні магчымасці. Пакуль жа чыноўнікі рэкамендуюць вяскоўцам альбо купляць для пітва бутыляваную ваду, альбо карыстацца фільтрамі для яе ачысткі.

Як бачым, да канца года праблемы нарастаюць, як снежны камяк. Тады ў справу пачынае ўмешвацца кіраўнік раёна – старшыня райвыканкама, які "падганяе" падначаленых і карае вінаватых. Каб у насельніцтва ствараласяя ілюзія наконт таго, што парадку няма ад дрэннай работы нядбайных спецыялістаў, а не ад недахопу бюджэтных грошай. Так лягчэй працаваць.

**Алесь Шумскі.**

ТЭРЫТОРЫЯ ДАБРА

# ВАЛАНЦЁРЫ МІЛАСЭРДНАСЦІ

**Пад эгідай "Чырвонага Крыжа" у раёне пашыраецца валанцёрскі рух. Сябры арганізацыі пастаянна ўдзельнічаюць у дабрачынных акцыях, беручь шэфства над састарэлымі людзьмі і дапамагаюць дзецям. Разам з дарослымі ў мерапрыемствах удзельнічае і моладзь.**

Дзейнасць раённага грамадскага аб'яднання Чырвонага Крыжа для кожнага з нас найперш азначае дабрачыннасць і міласэрнасць. Традыцыйна Шумілішчына праяўляе актыўнасць у праектах Чырвонага Крыжа, якія маюць сацыяльную накіраванасць. І вылучаюцца нашы валанцёры творчым падыходам да асэнсавання ідэй міласэрнасці і гуманізму. Наша выданне ўжо распавядала аб дзейнасці суполкі ў вёсках Мікалаева і Мішневічах. У апошні час былі рэалізаваны яшчэ некалькі новых міні-праектаў. Так, днямі для выхаванцаў Обальскага прытулка валанцёры даставілі новае адзенне. У сярэдзіне траўня наведалі старых у Мікалаеўскай бальніцы. Для хворых, што знаходзяцца на сацыяльным ложку, самадзейныя артысты з Мікалаёва наладзілі невялікі канцэрт. Старыя не павінны адчуваць сябе забытымі ў грамадстве, а жыць паўнавартасным жыццём, цікава праводзіць час і ў медычных установах. Да падобных акцый далучыліся і творчыя калектывы раёна. Да прыкладу, добрай традыцыяй стала супрацоўніцтва ансамбля "Абальчанка" і вакальнай групы народнага хору "Світанак" – разам з іншымі валанцёрамі яны прымаюць удзел у мініпраектах.

Перадусім прайшла акцыя па збору цёплага адзення, прычым актыўную дапамогу аказалі жыхары нашага раёна. Усяго было сабрана камплектаў адзення для 120 чалавек. Самымі актыўнымі ўдзельнікамі гэтага праекта былі Т. В. Гусакова, А. В. Паўлава і В. В. Петрусевіч. А яшчэ быў арганізаваны збор мастацкай літаратуры для папаўнення бібліятэчак сельскіх бальніц і дзіцячага інтэрната ў Мішневічах. У планах на будучае – новыя праекты, скіраваныя на працу з інвалідамі, праблемнымі дзецьмі, пажылымі людзьмі. Безумоўна, падобныя дабрачынныя акцыі – кропля ў вялікім моры патрэб. Гэта тым больш важна, што моладзь на ўласным вопыце вучыцца не праходзіць міма болю, гора, бяды незнаёмых людзей, а вучыцца несці ў наш свет дабрыню і мір.

**Алесь Шумскі.**

ГАНДАЛЬ

# ПАЧАЎСЯ РАМОНТ КАФЭ

У планах раённага спажывецкага таварыства – аднаўленне былога міні-кафэ "Клякса". Ужо распачаліся рамонтныя работы, на якіх задзейнічана будаўнічая брыгада арганізацыі і работнікі камунгасу.

У памяшканні праводзіцца рэканструкцыя, работы ідуць звонку, будзе пракладзена каналізацыя. Усяго на рамонтныя работы і новае абсталяванне было выдзелена каля 80 мільёнаў рублёў. Сучаснае і прыгожае абсталяванне будзе выраблена па заказу аднай з віцебскіх фірмаў. Калі шумілінскае райспажыўтаварыства самастойна "пацягне" гэты праект, то міні-кафэ адкрыецца ўжо да канца чэрвеня. Шумілінцы спадзяюцца, што ў аднаўленым кафэ будзе прапанаваны багаты выбар кандытарскіх вырабаў, кактэйляў і марожанага. І восьь яшчэ каб кошты ў новым месцы адпачынку не білі па кішэні.

**Алесь Прябярэжны.**

САВЕЦКІЯ ТРАДЫЦЫІ

# СТУДЭНТЫ НА ПАДСОБНЫХ РАБОТАХ

Маладое пакаленне атрымала магчымасць падчас канікулаў падзарабіць на кішэнныя расходы на тэрыторыі нашага раёна. У сельгаспрадпрыемстве "Прыдзвінскі" працуюць студэнты з Віцебскага станкаінструментальнага ліцэя. Паўтара дзесятка маладзёнаў займаюцца рэканструкцыяй фермы ў вёсцы Свярдлы.

Хто ў атрадзе не служыў, той студэнтам не быў. Студэнцкія атрады – з'ява далёка не новая. У былыя гады будаўнічыя атрады карыстаюцца вялікай папулярнасцю сярод савецкай моладзі. Тады для працоўнай моладзі ладзіліся ўсялякія курсы на базе прафтэхвучылішчаў, дзе студэнты праходзілі навучанне і атрымоўвалі кваліфікацыю каменшчыкаў, цесляроў, бетоншчыкаў і інш. Дзякуючы гэтаму студэнты маглі самі будаваць жывёлагадоўчыя комплексы, школы, жылыя дамы, дарогі, міліяратыўныя збудаванні.

Відавочна, сённяшні студатрадаўскі рух на Беларусі даўно ўжо не той, які быў у 70-гады. У рух унесены інвацыйныя формы работы, за гэты час па ўсёй краіне было забяспечана працай больш як за 315 тысяч чалавек.

Студэнты з Віцебска добраахвотна ўзяліся за цяжкую фізічную працу на ферме. У адным з памяшканняў яны бетаніруюць падлогу. Жывуць у вёсцы Навікі, пад інтэрнат выдзелены будынак былога дзіцячага садка. Гаспадарка забяспечыла і трохразавым харчаванем у школьнай сталоўцы.

У бліжэйшы час яшчэ адзін маладзёжны атрад будзе накіраваны на працу ў сельгаспрадпрыемства ""Мішневічы". На падсобных работах будуць заняты студэнты аднаго з Полацкіх каледжаў. На сяле па-ранейшаму не хапае рабочых рук.

**Алесь Прыбярэжны.**

КУЛЬТУРНАЯ ПАДЗЕЯ

# СВЯТА ЕДНАСЦІ ЛЮДЗЕЙ РОЗНЫХ НАЦЫЯНАЛЬНАСЦЯЎ

**З 1 па 3 чэрвеня ў абласным горадзе Гродна прайшоў дзевяты Рэспубліканскі фестываль нацыянальных культур. Шумілінскую дэлегацыю прадстаўляла раённае таварыства інвалідаў. Нашы землякі дастойна выканалі сваю галоўную місію: данеслі гледачам самабытнасць народнай культуры, традыцый, звычаяў, прадставілі нацыянальную кухню.**

Фестываль нацыянальных культур праходзіць у Беларусі кожныя два гады. Ён пачынаецца ў раёнах, затым праходзяць абласныя конкурсы, а сталіцай фінальных мерапрыемстваў па традыцыі становіцца Гродна. На свяце сваю культуру дэманструюць розныя прадстаўнікі народаў свету, якія мірна і дружна жывуць у нашай краіне. На дзевяты фестываль з'ехаліся каля тысячы ўдзельнікаў 33-х нацыянальнасцяў, каб паказаць яркі каларыт сваіх краін.

Гасцям было прапанавана наведаць падрыхтаваныя ўдзельнікамі фестывалю падворкі. Нашы землякі – дзевяць чалавек пад кіраўніцтвам Любові Нагібавай у сваім "кутку"наладзілі выставу-кірмаш народных умельцаў. Розныя сувеніры з саломкі і лазы, прысмакі народнай кухні прыйшліся даспадобы наведвальнікам фэсту. Самадзейныя артысты спявалі пад баян па заяўках гледачоў. Шчыра какучы, прыемна шчсведамляць, што на Шумілінычыне з інтарэсам ставяцца да самабытнай культуры розных нацыянальнасцяў.

**С. Горкі.**

ПАЛАТАЧНАЯ ІМІТАЦЫЯ

# ОППОЗИЦИЯ В ПАРЛАМЕНТ МОЖЕТ ТОЛЬКО ПРОСОЧИТЬСЯ

СУДЯ ПО РИТОРИКЕ АЛЕКСАНДРА ЛУКАШЕНКО НА СОВЕЩАНИИ 18 ИЮНЯ, ДАВШЕМ СТАРТ ПАРЛАМЕНТСКОЙ КАМПАНИИ, ВЫБОРЫ ОБЕЩАЮТ БЫТЬ ДЕМОКРАТИЧНЫМИ НАСТОЛЬКО, НАСКОЛЬКО ОНИ МОГУТ БЫТЬ ДЕМОКРАТИЧНЫМИ В БЕЛОРУССКИХ УСЛОВИЯХ.

Избирательные комиссии, по словам официального лидера, должны быть сформированы «с участием политических партий и общественных организаций». Но включать в избиркомы следует только лиц, «достойно зарекомендовавших себя при проведении прежних избирательных кампаний», а не тех, «кто ранее способствовал дезорганизации выборов». Понятно, что это развязывает вертикали руки для фильтрации неудобных персоналий.

Что касается регистрации кандидатов в депутаты, то Лукашенко заявил, что «всех, кто имеет право быть зарегистрированным, надо регистрировать». Он призвал местные органы власти обеспечить кандидатам свободу агитации «на условиях не худших, чем это было при проведении выборов президента страны в 2010 году». Но при этом потребовал «незамедлительно пресекать» любые незаконные действия и политические провокации. В общем, обычная риторика. Власти весьма дозированно играют в демократию и намерены держать процесс под колпаком.

Оппозиционные силы Беларуси практически единогласно утверждают, что к парламентской кампании готовы. Впрочем, как считает политолог Виктор Чернов, телодвижения партий, равно как и выборы, носят в современной Беларуси лишь ритуальный характер. «Оппозиция вообще не имеет шансов попасть в парламент, потому что в стране нет выборов, а есть имитация. Поэтому логично встает вопрос, стоит ли участвовать в такой имитации», — заявил Чернов.

«Шансов на попадание в парламент у оппозиции я не вижу. С 2000 года эти шансы только ухудшались. В 2000 году в половине округов был второй тур, в 2004 году второй тур был в нескольких округах, в 2008 году второго тура вообще не было. В стране — мажоритарная избирательная система, и законом этой системы является проведение второго тура. Не может быть при демократических выборах и мажоритарной системе полной победы в один тур! Беларусь — единственная страна в мире, где такое произошло. Это говорит, что списки составлены, решения приняты, депутаты уже назначены, и оппозиции дергаться даже не стоит», — считает аналитик.

На помощь же Европы в плане улучшения условий выборов особо рассчитывать не приходится. По мнению политолога Андрея Егорова, Европа уже давно утратила рычаги влияния на внутрибелорусскую ситуацию. «Европа могла бы поддержать процесс демократизации, если бы он начался внутри страны, оказать какую-то помощь, оказать давление», — считает эксперт. Но сейчас таких процессов не наблюдается.

По словам аналитика, на позицию Европы могли бы повлиять два фактора: полное освобождение политзаключенных и либерализация «хотя бы такая, как во время президентской кампании 2010 года».

Но выборы, по мнению Егорова, все равно не будут признаны соответствующими стандартам ОБСЕ. «Европа оценивает выборы в комплексе, а не только ход голосования. У нас нет условий для демократической кампании. Нет свободы СМИ, продолжаются репрессии в отношении оппозиционных активистов и правозащитников, в стране атмосфера страха, нет свободы собраний и так далее. Даже это уже не позволяет организовать выборы по международным стандартам», — считает Егоров.

По большому счету, и оппозиции, и Европе надо было начинать думать о белорусских парламентских выборах раньше. Как минимум — сразу же после президентских. Но тогда было не до этого: брутальность репрессий оглушила всех, тема политзаключенных вытеснила все остальные.

**Сергей Пульша, naviny.by**

АБЯЦАНКІ-ЦАЦАНКІ

# СЕЗОН ПЕРАДВЫБАРЧАГА ПАВЫШЭННЯ ЗАРОБКАЎ АДКРЫТЫ

БЮДЖЭТНІКАЎ У ГЭТЫМ ГОДЗЕ ЧАКАЕ, ЯК МІНІМУМ, ДВА ПАВЫШЭННЯ ЗАРПЛАТЫ. ПАВЫСІЦЬ ТАРЫФНУЮ СТАЎКУ ПЕРШАГА РАЗРАДУ ПЛАНУЕЦЦА 1 ЖНІЎНЯ І Ў КАСТРЫЧНІКУ. ЁСЦЬ МЕРКАВАННЕ, ШТО АНАНСАВАННЯ ПАВЫШЭННЯ ЗАРОБКАЎ - ГЭТА ЧАСТКА ПЕРАДВЫБАРЧАЙ КАМПАНІІ, А ТАКСАМА АДКАЗ НА ПРАТЭСТНЫЯ ВЫСТУПЫ ПРАЦОЎНЫХ.

21 чэрвеня Аляксандр Лукашэнка на сустрэчы з прэм'ер-міністрам Міхаілам Мясніковічам даручыў павысіць з 1 жніўня і ў кастрычніку бягучага года тарыфную стаўку першага разраду. Паводле слоў прэм'ер-міністра, «задача аб выхадзе на 4-4,1 млн. рублёў сярэдняй заработнай платы няпростая, але будзем імкнуцца да таго, каб гэта было выканана».

Як вядома, Лукашэнка паставіў задачу да канца гэтага года давесці сярэдні ўзровень заробкаў у Беларусі да 500 даляраў. Па дадзеных Нацыянальнага статыстычнага камітэта, налічаная сярэдняя заработная плата работнікаў у красавіку склала 3252689 рублёў (у сакавіку - 3.159.624 рублёў). Сярод рэгіёнаў найбольшы памер сярэдняй зарплаты ў красавіку быў у Менску - 4174172 рублі. Гэты паказчык не дазваляе, з улікам ваганняў курсу рубля, казаць, што беларуская сталіца стабільна выйшла на 500-даляравы ўзровень сярэдняй зарплаты. У рэгіёнах сітуацыя яшчэ менш аптымістычная.

Эканаміст Леанід Злотнікаў звязвае кампанію па павелічэнні заробкаў з набліжэннем выбараў у парламент. Акрамя таго, улады вымушаныя адказваць на пратэсты, якія час ад часу здараюцца на прадпрыемствах, лічыць эксперт.

Нагадаем, што першымі ў працоўным асяроддзі сталі выказваць незадаволенасць нізкімі заробкамі барысаўскія камунальнікі. Затым у гэтым жа горадзе па гэтай жа прычыне абурыліся працаўнікі завода БАТЭ. Далей супраць нізкіх заробкаў выступілі рабочыя аб'яднання «Палессе» у Пінску, станкабудаўнічага завода «Атлант» у Баранавічах. У Аршанскім філіяле электрасетак паўсотні чалавек вырашылі выйсці з афіцыйнага прафсаюза. Яшчэ вялікія страты панёс афіцыйны прафсаюз на «Граніце» у Мікашэвічах.

Леанід Злотнікаў лічыць, што лепш эканоміцы ад неабгрунтаванага росту заробкаў не будзе ў любым выпадку.

Калі будзе прададзеная дзяржуласнасць, з'явяцца крэдыты, тады павелічэнню грашовай масы на руках у насельніцтва можна будзе супрацьпаставіць павелічэнне таварнай масы. Гэта будзе азначаць некалькі месяцаў спакойнага і больш-менш камфортнага жыцця.

Аднак, адзначае эксперт, пры такім варыянце неабходна будзе значна нарошчваць імпарт, так як «сваю вытворчасць не магчыма хутка павялічыць». А для імпарту неабходная валюта. Павышаны жа попыт на яе створыць ціск на валютны рынак і можа стаць прычынай падзення курсу нацыянальнай валюты.«Такім чынам, дрэнна будзе эканоміцы ў любым выпадку - ці цяпер, ці крыху пазней», - маркуе Леанід Злотнікаў.

Эксперт звяртае ўвагу, што да 500 даляраў сярэдняя зарплата павінна вырасці з той якая ў пачатку года была 350 даляраў. Акрамя таго, растуць пенсіі і іншыя сацыяльныя выплаты. Для падтрымання такога росту даходаў, каб пазбегнуць інфляцыі, лічыць Злотнікаў, ВУП павінен павялічыцца, па крайняй меры, на 30%. Аднак нават вызначаны ў якасці прагнозага паказчыка рост ВУП у 5-5,5% незалежныя эксперты раней называлі неапраўдана завышаных.

Такім чынам, робіць выснову Леанід Злотнікаў, мы назіраем «не рашэнне праблемы павышэння жыццёвага ўзроўню насельніцтва, не стратэгію, а тактыку, заснаваную на тым, каб заўтра было добра, а там будзь што будзе».

Як адзначаў раней першы віцэ-прэм'ер Уладзімір Сямашка, дасягненне заработнай платы ў снежні 2012 года на ўзроўні 500 даляраў будзе забяспечвацца толькі за кошт росту прадукцыйнасці працы з дапамогай стварэння новых вытворчасцей і павышэння эфектыўнасці дзеючых. «Нізкія зарплаты ў краіне звязаны як раз з нізкай эфектыўнасцю - прыкладна ў 6 разоў ніжэй, чым у развітых краінах», - адзначыў Леанід Злотнікаў.

Сцвярджэнні прадстаўнікоў улады аб тым, што «падвышэнне заробкаў адбываецца ў адпаведнасці з ростам прадукцыйнасці працы застаюцца толькі словамі», упэўнены Леанід Злотнікаў. «Улічваючы, што да ўсяго іншага нам неабходна разлічвацца па крэдытах, цяпер трэба зацягваць пасясы, а не павышаць зарплаты», - лічыць эксперт.

**Алена Спасюк.**

ЕЎРАЗІЙСКАЯ ІНТЭГРАЦЫЯ

# ЛУКАШЕНКО ПРЕДЛОЖИЛИ ЕЗДИТЬ ЗА ЗАРПЛАТОЙ В КРЕМЛЬ

«ВТОРОГО КРИЗИСА БЕЛОРУССКАЯ СИСТЕМА НЕ ПЕРЕЖИВЕТ». ЭТО СКАЗАЛ НЕ ОППОЗИЦИОНЕР, А РОССИЙСКИЙ ПОСОЛ АЛЕКСАНДР СУРИКОВ В ИНТЕРВЬЮ АГЕНТСТВУ «ИНТЕРФАКС-ЗАПАД». И СКАЗАЛ ВОТ В КАКОМ КОНТЕКСТЕ: «НАДО ВОЗВРАЩАТЬСЯ И К ВОПРОСУ ВВЕДЕНИЯ ЕДИНОЙ ВАЛЮТЫ».

Оба-на! В последнее время официальные лица с обеих сторон твердили, что этот вопрос в обозримой перспективе не актуален, и вдруг — такое заострение.

И вообще дипломат союзной страны наговорил кучу весьма неприятных для белорусского начальства вещей. Представляющих собой, однако, горькую правду. Типа того, что без реформ в экономике инвесторы в Беларусь не придут. Что вскоре синеокая республика может «стать совсем неконкурентной и потерять даже наш, российский, рынок». Здесь господин посол позволил себе легкую иронию: «И останутся только братские отношения».

Да, белорусские деятели сами замусолили эту фразеологию, хотя в подкорке другое: сомнительное братство на хлеб не намажешь; сто лет нужны эти поцелуи с Азиопой, если за них не дают дешевого газа и нефти!

### Алхимия «братских отношений»

Тем временем исподволь назревает и конфликт на почве сотрудничества Беларуси с китайцами. Тот же Александр Суриков дал понять, что планы наладить у нас выпуск китайских автомобилей не вызывают у Москвы ни малейшего восторга.

А между тем на днях Александр Лукашенко подписал указ о создании под Минском китайско-белорусссского индустриального парка. Причем ему на полстолетия даруется статус особой экономической зоны. Хотя согласно соглашениям в рамках ЕЭП все СЭЗы к 2017 году должны исчезнуть. Россия вряд ли закроет глаза на такой игнор.

Посол Суриков дважды за последние дни затронул также скользкую тему колоссального роста экспорта растворителей и разбавителей из Беларуси. 14 июня этой темой выстрелили и московские «Известия». Заголовок красноречив: «Белоруссия химичит с экспортом российских нефтепродуктов».

Короче, в Москве сгущаются подозрения, что здесь имеет место хитрая схема неуплаты таможенных платежей в российский бюджет. Минск устами главы Государственного таможенного комитета Александра Шпилевского это отверг. Таким образом, схватка в публичном пространстве разгорается.

«Недавно был замечательный визит Путина, все пели и плясали, — иронизирует белорусский обозреватель-международник Андрей Федоров, — и вдруг посыпались неприятные для Минска заявления». С чего бы это? О той же «химии» с реэкспортом нефтепродуктов аналитики пишут уже полгода, а Кремль резко прозрел только сейчас.

«Подтверждается прогноз, что Москва будет усиливать давление на Лукашенко после инаугурации Путина», — заявил аналитик в комментарии для Naviny.by.

### Последний рубеж белорусской автократии

При этом Андрей Федоров убежден, что белорусский руководитель будет особенно яростно сопротивляться единой валюте (читай: введению у нас российского рубля).

Напомню, что общие деньги с двуглавым орлом планировалось ввести еще в 2005 году в рамках Союзного государства. Но тогда Лукашенко встал на дыбы. И даже призвал во временные союзники ушедшего в оппозицию либерального профессора Станислава Богданкевича, известного противника единой валюты.

Короче, тогда наскок Кремля отбили плечом к плечу, забыв о взаимных ярлыках, «промосковский диктатор» и «пятая колонна». При всем антагонизме их роднит понимание: российский рубль — это капец суверенитету.

В периоды эмоционального возбуждения Лукашенко еще не раз возвращался к этой теме и повторял, что за зарплатой «на поклон в Кремль» ездить не собирается.

Почему Суриков поднял этот вопрос именно сейчас, когда Россия вроде бы старается не спугнуть белорусского партнера, заманивая поглубже в проект евразийской интеграции?

«Москва учитывает, что Беларусь довела себя до изоляции в отношениях с цивилизованной Европой и Америкой, что вся финансовая помощь идет из России, туда же в основном сбывается продукция белорусской обрабатывающей промышленности», — отметил в беседе с автором этих строк Станислав Богданкевич.

По его мнению, ситуацией, когда Лукашенко «барахтается у стенки», Кремль логично решил воспользоваться, чтобы продавливать единую валюту, приватизацию, а в перспективе — полное поглощение Беларуси.

Но, может, не так уж и страшен российский рубль? Может, напротив, это благо и спасение? Нет, подчеркнул профессор Богданкевич в интервью для Naviny.by. Бывший руководитель Национального банка убежден: «Нам невыгоден переход на валюту, которая, как показывает кризис, неустойчива, которая лежит на сырьевой компоненте».

Главное же — угроза навсегда застрять в путинской модели евразийской интеграции, предполагающей «восстановление в какой-то форме СССР», говорит эксперт. При этом Богданкевич подчеркивает: Беларуси важно сохранять с Россией хорошие отношения, но — не поступаясь суверенитетом, как это делала маленькая Финляндия.

**Александр КЛАСКОВСКИЙ.**

РЭГІЯНАЛЬНЫЯ ПАДАТКАПЛАЦЕЛЬШЧЫКІ

# ЗА ЧЫЙ КОШТ ВЫЖЫВАЮЦЬ РЭГІЁНЫ?

НАФТАПЕРАПРАЦОЎШЧЫКІ, ГАРЭЛАЧНІКІ, ТЫТУННІКІ І ГАЗАВІКІ - ГАЛОЎНЫЯ КРЫНІЦЫ ДАХОДАЎ БЕЛАРУСКІХ РЭГІЁНАЎ. ЧЫМ ПАХНУЦЬ БЮДЖЭТНЫЯ ГРОШЫ НА МЕСЦАХ, ВЫСВЯТЛЯЕ «ЗАЎТРА ТВАЁЙ КРАІНЫ».

«Заўтра тваёй краіны» ужо пісаў пра найбуйнейшых падаткаплацельшчыках беларускай сталіцы. Па выніках студзеня-красавіка ў першую пяцёрку па аб'ёмах плацяжоў у сталічны бюджэт ўвайшлі «Белтрансгаз»-даччыная кампанія расейскага «Газпрама» і выключна прыватныя кампаніі - «Лукойл-Беларусь», «Трайпл», «Белнафтагаз», «Юнівест». Разам з якія занялі месца ў другой палове рэйтынгу топ-10 «Мінск Крышталем», Мінскім заводам вінаградных вінаў, Беларускай чыгункай, «Тытунь-Інвест» і «Мінгаз» яны забяспечылі звыш 37% кансалідаваных даходаў горада. Доля прадпрыемстваў недзяржаўнага сектара склала рэкордныя 75%, на дзяржсектар сталіцы прыйшлося ўсяго 22,7% усіх паступленняў.

У Мінскай вобласці найбуйнейшым плацельшчыкам у бюджэт стала самае прыбытковае прадпрыемства беларускай эканомікі - салігорскі «Беларуськалій». Яму склалі кампанію зарэгістраваная ў Мінскім раёне «дачка» расейскай нафтавай кампаніі ТНК-ВР («ТНК-Біпі Захад»), найбуйнейшы прыватны гарэлачны завод «Аквадзіў», а таксама «Белвторчермет».

Безумоўным лідэрам па аб'ёмах адлічэнняў у кансалідаваны бюджэт Віцебскай вобласці за першыя чатыры месяцы 2012 стаў наваполацкі «Нафтан». Гэта прадпрыемства забяспечыла 17,8% даходаў абласнога бюджэту. Другое месца па плацяжах заняў «Віцебскаблгаз», трэцяе - прыватны нафтатрэйдары «Інтэрсэрвіс» (Наваполацк), чацвёртае - Віцебскі лікёра-гарэлачны завод«Прыдзвінні».

У Магілёўскай вобласці ў чацвёрку лідэраў ўвайшоў толькі адзін прыватны бізнес - «Бровары Хайнэкен», які заняў трэцяе месца, забяспечыўшы 4,5% ад усіх паступленняў у кансалідаваны бюджэт вобласці. А галоўнай надзеяй уладаў на Магілёўшчыне з'яўляецца «Могилевоблгаз», на які прыйшлося 10,5% усіх паступленняў. Другое месца ў Клімавіцкага лікёра-гарэлачнага завода (4,9%), чацвёртае - у заводу «Магілёўліфтмаш» (2,2%), былой вотчыны цяперашняга губернатара Пятра Рудніка.

Чатыры падаткаплацельшчыка Гродзенскай вобласці напоўнілі рэгіянальны кансалідаваны бюджэт амаль на трацiну - на 31,2%. Лідэрам па адлічэннях стала гарадзенская «тытункі», далей ішлі «Гродна Азот», Гродзенскі лікёра-гарэлачны завод «Неманофф» і «Гроднааблгаз».

У Брэсцкай вобласці, адзінай сярод рэгіёнаў, тон задае не сыравінную і не падакцызнай прадпрыемствы, а найбуйнейшы вытворца ў СНД электрычных і газавых пліт - «Брэстгазаапарат». Удзельная вага прадпрыемствы, кантрольны пакет якога належыць «Газпрому», у агульным аб'ёме паступленняў у бюджэт вобласці склаў 6,5%. Другое і трэцяе месцы занялі Брэсцкі лікёра-гарэлачны завод «Белалка» (5,3%) і «Беларуснафта-Брестоблнефтепродукт» (2%), адна з васьмі ненафтапрадуктазбытавых кампаній «Беларуснафты».

Доля дзяржсектара ў падатковых паступленнях у Гомельскай вобласці - самая высокая ў краіне. Па выніках 2011 года яна склала 82,8%. Дадзеных, хто лідзіраваў па адлічэннях у бюджэт вобласці ў студзені-красавіку 2012 года, мясцовыя падатковыя органы не апублікавалі. Але традыцыйна найбуйнейшымі падаткаплацельшчыкамі ў кансалідаваны бюджэт рэгіёну з'яўляюцца Мазырскі НПЗ, БМЗ, «Гомсельмаш» і «Беларуснафта».

Аляксей ТАПОЛЬКА.

РЭГІЯНАЛЬНЫ ЦУД

# У ЧЫМ САКРЭТ ВІЦЕБСКАГА "ЭКАНАМІЧНАГА ЦУДУ"

НА ФОНЕ СЦІПЛАГА ПА БЕЛАРУСКІХ МЕРКАХ РОСТУ ВУП У 2,9% ЗА СТУДЗЕНЬ-КРАСАВІК АДЗІН З РЭГІЁНАЎ БЕЛАРУСІ ДЭМАНСТРУЕ АШАЛАМЛЯЛЬНЫ ВЫНІКІ. ЗА КОШТ ЧАГО ВІЦЕБСКАЙ ВОБЛАСЦІ ЎДАЛОСЯ ДАБІЦЦА РОСТУ РЭГІЯНАЛЬНАГА ЎНУТРАНАГА ПРАДУКТУ НА 22,2%, ДАСЛЕДУЕ «ЗАЎТРА ТВАЁЙ КРАІНЫ».

Менавіта такім - 22,2%, па дадзеных Белстата, апынуўся рост РВП Віцебскай вобласці па выніках студзеня-красавіка бягучага года ў адносінах да леташняга аналагічнага перыяду. Пасля Віцебскай вобласці самы вялікі рост у Мінска - 4,1%.

І хоць Мінск ўносіць найбольшы ўклад у фарміраванне ВУП краіны (амаль 27%), менавіта Віцебская вобласць больш чым напалову забяспечыла тэмпы росту ВУП, даўшы 1,7% з 2,9%. Інакш рост ВУП Беларусі знаходзіўся б на ўзроўні крыху больш за 1% у параўнанні з мінулым годам.

Астатнім рэгіёнах не ўдалося пераадолець запланаваны на год 5-працэнтны бар'ер, а Брэсцкая вобласць нават паказала зніжэнне - на 3,9%.

3 дадзеных статыстыкі вынікае, што самы вялікі ўклад у рост РВП Віцебскай вобласці ўнеслі ўсяго два віду эканамічнай дзейнасці: апрацоўчая прамысловасць з ростам у 42% у рэгіёне і гандаль, якая паказала двухразовы рост у параўнанні з мінулым годам.

### Небывалы ўздым вытворчасці ў Наваполацку

У цэлым рост прамысловай вытворчасці па Віцебскай вобласці склаў 34%. І гэта таксама абсалютная лідэрства сярод іншых рэгіёнаў Беларусі. 68% усёй прадукцыі фарміруецца ў Наваполацку, дзе рост у параўнанні з мінулым годам склаў ужо 56,2%. Відавочна, што забяспечыць яго магло толькі адно прадпрыемства Наваполацка - «Нафтан».

Пасля паляпшэння ў гэтым годзе умоў для пастаўкі нафты і нафтапрадуктаў у Беларусь з Расіі імпарт нафты павялічыўся ў першым квартале на 25%, а нафтапрадуктаў, з якіх у Беларусі робяць на экспарт «растваральнікі», - у 4,4 разы, Гэта, хутчэй за ўсё , і забяспечыла небывалы ўздым вытворчасці ў Наваполацку.

Праўда, яшчэ адна нафтаперапрацоўчая вобласць краіны - Гомельская - не паказала такіх бурных тэмпаў росту. Рост РВП тут склаў усяго 1,8%, рост прамысловай вытворчасці - 5,4%.

Прамысловасць Гомельшчыны куды больш дыверсіфікавана, чым Віцебшчыны. Мазырскі раён у структуры прамысловай вытворчасці Гомельскай вобласці займае 44%, прычым у студзені-красавіку тут нават адбылося зніжэнне аб'ёмаў прамысловай вытворчасці на 2,8% у параўнанні з мінулым годам.

А дадзеныя па знешнім гандлі ў рэгіянальным разрэзе паказваюць, што імпарт у Наваполацк склаў больш за 1,3 млрд даляраў супраць 722 млн. даляраў у Мазырскім раёне. Відавочна, што асноўную долю імпарту ў гэтых двух рэгіёнах складаюць менавіта нафта і нафтапрадукты.

Дадзеныя ж па экспарту разводзяць рэгіёны па розныя бакі «эканамічнага цуду» - усяго 33 млн даляраў для Мазырскага раёна (верагодна, МНПЗ забяспечвае ў большай ступені ўнутраны рынак) супраць амаль 857 млн. даляраў, якія даў Наваполацк, прадэманстраваўшы у параўнанні з мінулым годам 4 - кратны рост экспарту.

Становіцца відавочным, што як мінімум палову ашаламляльнага росту РВП Віцебскай вобласці забяспечыла нафцянка.

### Тавары проста вывозяць у суседнюю Расію

Другую палову даў гандаль. Рост таваразвароту ў Віцебскай вобласці таксама аказаўся самым высокім сярод рэгіёнаў Беларусі - 17,1%. Зрэшты, тут у Віцебскай вобласці ёсць годны сапернік - Магілёўшчына з ростам рознічнага таваразвароту ў 15,9%. Блізкасць абодвух рэгіёнаў да мяжы з Расіяй не пакідае сумненняў - рост рознічнага таваразвароту звязаны зусім не з спажывецкім бумам, які перажываюць мясцовыя жыхары. Яны проста вывозяць тавары ў суседнюю Расею.

Гэта пацвярджаюць і дадзеныя статыстыкі. Самы высокі рост таваразвароту ў Аршанскім раёне - 68%. І хоць у гэтага раёна няма прамой мяжы з Расеяй, відавочна, што транспартны вузел на тэрыторыі раёна забяспечвае яго жыхарам неабходную мабільнасць. Далей ідуць Віцебскі раён - рост на 45%, Лёзненскі - на 39%, Гарадоцкі - на 36%, Верхнядзвінскі - на 27%.

**Алена Зубарава, Заўтра тваёй краіны.**

ДЭМАКРАТЫЧНЫ РУХ

# УДЗЕЛАМ ЦІ НЯЎДЗЕЛАМ У ВЫБАРАХ МЫ НЕ ВЫЗВАЛІМ ПАЛІТВЯЗНЯЎ

КІРАЎНІК РУХУ «ЗА СВАБОДУ», ЭКС-КАНДЫДАТ У ПРЭЗЫДЭНТЫ АЛЯКСАНДАР МІЛІНКЕВІЧ БРАЎ УДЗЕЛ У ГЛЯБАЛЬНЫМ ФОРУМЕ, ЯКІ АДБЫЎСЯ ВА ЎРОЦЛАВЕ. НАШ КАРЭСПАНДЭНТ ЮРЫ ДРАКАХРУСТ ПАПРАСІЎ ЯГО ПРАКАМЭНТАВАЦЬ НЕКАТОРЫЯ АКТУАЛЬНЫЯ СЮЖЭТЫ БЕЛАРУСКАЙ І ЭЎРАПЕЙСКАЙ ПАЛІТЫКІ.

**Дракахруст:** Як вы ацэньваеце вынікі візыту ў Беларусь прэзыдэнта Расеі Ўладзімера Пуціна?

**Мілінкевіч:** Я мяркую, што адбылося тое, што ў Беларусі і чакалі. Для Расеі сёньня, на гэтым этапе стварэньня Эўразійскага саюзу самае галоўнае — наблізіць Беларусь, зрабіць яе залежнай у эканамічнай сфэры. І Пуцін гэта падкрэсьлівае сваім візытам. Для стварэньня гэтай новай імпэрыі больш важная Ўкраіна, але Ўкраіна сёньня больш самастойная, чым Беларусь.

Я мяркую, што да восені будуць жорстка пастаўленыя пытаньні аб прыватызацыі галоўных беларускіх прамысловых актываў, аб увядзеньні расейскага рубля, але на гэтых перамовах былі хутчэй «пернікі», чым «бізуны».

**Дракахруст:** Ужо некалькі месяцаў у апазыцыі вядуцца гарачыя спрэчкі наконт стаўленьня да восеньскіх парлямэнцкіх выбараў, вакол дылемы — удзел ці байкот? Якое стаўленьне да гэтай дылемы вашага руху і вас асабіста?

**Мілінкевіч:** Узровень гэтых спрэчак сьведчыць пра стан апазыцыі. Спрэчкі ідуць аб тым, што абсалютна нецікава людзям. Людзі жывуць абсалютна іншым жыцьцём, нават зацікаўленыя палітычнымі праблемамі.

Таму для мяне вялікай розьніцы няма. Мы ўсе не прызнаём гэтыя выбары, яны ня будуць ні легітымнымі, ні свабоднымі, ніхто іх не прызнае. Удзел ці байкот ня зробіць іх для Захаду легітымнымі. Гэта па-першае. Па-другое, сацыялягічныя апытаньні сёньня паказваюць, што толькі 10% насельніцтва зьбіраюцца сёньня не пайсьці на выбары.

Большасьць прыйдзе на выбары. Апазыцыя не такая ўплывовая сёньня, каб яе паслухалі. І апошняе — ў грамадзтве няма стаўленьня да гэтых выбараў як да падзеі, якая вырашае лёс іх сям'і і краіны.

Апазыцыя не сфармулявала, якую мэту яна хоча дасягнуць. Калі ставіць на мэце павялічыць свой уплыў, зьмяніць мэнталітэт людзей, спрыяць пашырэньню праэўрапейскіх настрояў, паказаць альтэрнатыву — што ёсьць прыстойныя людзі, якім можна даверыць уладу, тады, зразумела, трэба ўдзельнічаць. Іншая справа — да канца ці не да канца, трэба ці ня трэба здымаць кандыдатуры, але я лічу, што ўдзелам ці няўдзелам мы ня вызвалім палітвязьняў, іх вызваляе ўплыў іншых чыньнікаў. І падыход, што мы запэцкаемся паходам на выбары — я зь ім нязгодны.

Трэба выкарыстоўваць кожную магчымасьць. Выбары ня так часта бываюць. Таму я лічу, што абмежаваны ўдзел — гэта абсалютна слушны падыход.

***(Скарочана).***

**Радыё Свабода.**



**Заснавальнік:** Салодкі Сяргей Аляксандравіч
**Рэдактар:** Шчамлёў Аляксандр Міхайлавіч

**Адрас рэдакцыі:** 211262, Шумілінскі раён, п/а Амбросавічы.
Тэл. 3-73-74, маб. +375299870742.
Газета выдаецца з верасня 2000 г.

**Падпісана да друку 27.06.2012 у 21.20.**
Наклад: 290 асобнікаў.
Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Друкуецца пры дапамозе аднадумцаў.
Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.